● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

7 ліпеня 1998 г. аўторак, № 136 (23487)



# ЗВЯЗДА

## СЛАЎНАЙ ГІСТОРЫІ ДЗЯТЛАВА — 500 ГАДОЎ

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка павіншаваў жыхароў горада Дзятлава з 500-годдзем з дня нараджэння горада.

У пасланні кіраўніка дзяржавы, у прыватнасці, гаворыцца, што за сваю паўтысячагадовую гісторыю дзятлаўская зямля перажыла нямала. Па ёй хадзіў занепакоены лёсам Айчыны рускі цар Пётр І, праходзіла армія Баграціёна. Пакаленні дзятлаўчан перажылі акупацыю войскамі кайзераўскай Германіі, прыгнёт буржуазна-памешчыцкай Польшчы і нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны. Дзятлаўшчына недалічылася больш за 12 тысяч жыхароў, многія з якіх загінулі на франтах і ў партызанскіх атрадах. Пяць спаленых вёсак, 28 брацкіх магіл, 56 абеліскаў і помнікаў загінуўшым нагадваюць аб страшных гадах ліхалецця.

«На вашай цудоўнай зямлі ёсць героі, якімі вы ганарыцеся. Побач з імі — радавыя працаўнікі. Яны вучаць дзяцей, лечаць хворых, пякуць хлеб, водзяць аўтамабілі, будуюць дамы. Кожны з вас — часцінка цяперашняга Дзятлава, часцінка яго гісторыі», — гаворыцца ў пасланні кіраўніка дзяржавы.

Аляксандр Лукашэнка пажадаў дзятлаўчанам шчасця, дабрабыту ў кожным доме, радасці — у кожным сэрцы, удачы — у кожнай справе.

**БЕЛТА.**

## З 1 ЛІПЕНЯ ПАВЫШАНЫ КАМУНАЛЬНЫЯ ТАРЫФЫ

**Пастановай Міністэрства эканомікі № 42 ад 1 ліпеня зацверджана чарговае павышэнне камунальных тарыфаў.**

Праўда, павелічэнне плацяжоў закране толькі такі від паслуг, як каналізацыя. У пастанове вызначана, што гранічны каэфіцыент павышэння павінен складаць 2,56. Гэта азначае рост плацяжоў на 250 працэнтаў. Наступным пунктам дакумента Мінскаму гарвыканкаму і аблвыканкамам даручана прывесці тарыфы ў адпаведнасць з зацверджанымі лічбамі.

Прапановы Мінжылкамунгаса аб давядзенні ўзроўню аплаты жыхароў за ваду да поўнага пакрыцця страт на аказанне паслугі засталіся пакуль не зацверджанымі.

Але ж за каналізацыю насельніцтва будзе плаціць па поўнаму тарыфу. Аднак у рэальных лічбах павелічэнне плацяжоў, як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Камітэце цэн, будзе нязначным — у межах 10 тысяч рублёў на чалавека.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# СУВЕРЭННАЯ НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ — САМЫ ДАРАГІ НАБЫТАК КОЖНАГА З НАС



Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.



Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛТА.

Другі раз народ Беларусі адсвяткаваў 3 ліпеня аднагасова Дзень Незалежнасці і чарговую гадавіну вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Напярэдадні самага вялікага свята — Дня Незалежнасці — у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета адбылося ўрачыстае пасяджэнне. У ім прынялі ўдзел прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, кіраўнікі абедзвюх палат парламента Анатоль Малафееў і Павел Шыпук, кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў, прадстаўнікі грамадскасці, навуковай і творчай інтэлігенцыі, працоўных калектываў, ветэраны, замежныя госці.

Павіншаваўшы прысутных з такой знамянальнай падзеяй у жыцці кожнага беларуса, прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што гэтыя два святы аб'ядналіся па сэнсу ў адно цэлае самой логікай гісторыі, воляй беларускага народа, выказанай на рэферэндуме ў 1996 годзе.

Абноўлены пасля народнага волевыяўлення Асноўны закон краіны, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, стварае неабходныя гарантыі для ўмацавання беларускай дзяржаўнасці. Аднак шлях да дасягнення гэтай мэты выдаўся для Беларусі цяжкім, доўгім і цярністым. Таму, як сказана ў дакладзе, мы заслужылі права на свабоду і незалежнасць, права на суверэнітэт.

На жаль, гісторыя не ведае простага і роўнага шляху. У сувязі з гэтым кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што нельга забываць тыя велізарныя заваёвы народа, якія ён дасягнуў у гістарычна кароткі час. Тое, што гэта яго краіна, яго палітычны выбар, народ даказаў у суровыя гады вайны. Таму вельмі важна, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, што нам удалося захаваць памяць і павагу да гераізму, патрыятызму і вярнуць нашым ветэранам права з гордасцю насіць свае ордэны.

З павагай ставячыся да мінулага, працы і барацьбы свайго народа, у беларусаў ёсць усе падставы ганарыцца сваёй сённяшняй дзяржаўнай незалежнасцю. Рэспубліка Беларусь — незалежная краіна ў цэнтры Еўропы, якая падтрымлівае эканамічныя і дыпламатычныя адносіны больш чым са 120 дзяржавамі свету. І аснова гэтых адносінаў — дэмакратыя, узаемная павага да суверэнітэту і незалежнасці кожнай краіны. Як сказаў прэзідэнт, мы смела ўвайшлі ў вялікі свет і ў вялікую палітыку як роўныя і мы хочам, каб Беларусь успрымалі такой, якая яна ёсць, як гэта прынята ва ўсім цывілізаваным свеце. «Беларускі народ дастойны таго, каб яго паважалі», — заявіў Аляксандр Лукашэнка.



Працэсы нацыянальнага адраджэння, якія адбываюцца ў рэспубліцы, патрабуюць вялікіх намаганняў і самаахвярнасці. З вялікім напружаннем даводзіцца ісці да пастаўленай мэты, даб дасягнуць к 2001 году ўзроўню і маштабаў эканамічнага развіцця савецкага перыяду. Але, як адзначыў Аляксандр Лукашэнка, выбраны эвалюцыйны, а не разбуральны шлях сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў поўнасцю сябе апраўдвае. У выніку і ў эканамічнай, і ў сацыяльнай сферах удалося выйсці на якасна новы ўзровень развіцця. Гэта радуе і дае магчымасць з аптымізмам глядзець у будучыню, працаваць яшчэ больш эфектыўна. «Суверэнная і незалежная Рэспубліка Беларусь — самы дарагі набытак кожнага з нас і наша гордасць», — сказаў прэзідэнт.

Пасля ўрачыстага пасяджэння адбыўся святочны канцэрт майстроў мастацтваў нашай рэспублікі.

***

«У жыцці кожнай дзяржавы, кожнага народа ёсць асабліва ўрачысты і святочны дзень, які аб'ядноўвае ўсіх грамадзян краіны незалежна ад узросту, нацыянальнай прыналежнасці, перакананняў і веры. Для беларусаў такім днём стала 3 ліпеня», — сказаў прэзідэнт Беларусі ў час урачыстасцяў, прысвечаных Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Больш як паўстагоддзя таму наш народ, скінуўшы ярмо гітлераўскай акупацыі, адстаяў права самастойна вызначаць свой лёс. У сувязі з гэтым кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ўдзячныя нашчадкі заўсёды будуць памятаць лепшых сыноў і дачок усіх народаў Савецкага Саюза, якія ўнеслі неацэнны ўклад у вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Гэты дзень стаў сімвалам нацыянальнага адраджэння і свабоды, галоўным дзяржаўным святам Беларусі. Прэзідэнт краіны падкрэсліў, што «ў новых гістарычных умовах па волі беларускага народа менавіта 3 ліпеня было абвешчана Днём Незалежнасці нашай дзяржавы».

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**



Фота Максіма МАЛІНОЎСКАГА.

## БЕЛАРУСЬ, ПІВА І ЕДНАСЦЬ...

**Некалькі дзён запар сталіца «адцягвалася» так, як робіць гэта толькі аднойчы ў год. Адсюль той шалёны выкід энергіі, калі святу аддаюцца да донца, напэўна, падсвядома імкнучыся ўбачыць, здзейсніць і перажыць як мага больш — каб успамінаў хапіла да года наступнага; тое бясконцае бескляпотнае блуканне па праспектах — калі яшчэ вось так, пехатою, можна будзе пахадзіць у цэнтры горада; тое мора піва, у якім літаральна купаўся кожны жадаючы, а жадаючымі былі ўсе; той дух еднасці, які ахопліваў дзесяткі тысяч людзей аднагасова, — калі ў неабсяжным небе над усімі «вырастала» дзівосная кветка феерверку і над ракой неслася адзінае — «Беларусь»... Падалося, што ў гэтыя дні людзі былі дабрэйшымі адзін да аднаго, больш цярпімымі. Не ўжываліся казённыя фразы з афіцыйных прамоў, але і без таго часцінка свята была ў душы кожнага. Напэўна, толькі з-за аднаго гэтага можна смела сказаць — свята ўдалося.**

**Але яно было рознабаковым. Было і прыемнае, былі і свае маленькія трагедыі. Гэтыя нататкі — толькі кропля таго, чым жыў, чаму радаваўся і засмучаўся Мінск у прайшоўшыя дні.**

### Надвор'е

Усе дні святаў яно трымала ў напружанні. Дзякуй Богу, падчас усіх урачыстасцяў былі толькі сімвалічныя ападкі, калі можна так назваць тыя кроплі дажджу, што нават не намачылі асфальт. Таму даволі папулярным сярод адпачываючых было рытарычнае пытанне-надзея: «Мабыць, хмары спецыяльна разганялі», якое задавалі, памятаючы, як калісьці надвор'е «заказвалі» ў Расіі падчас святкавання юбілею яе сталіцы. Нашы ж сіноптыкі ў чарговы раз выехалі «за кошт прафсаюзаў», г. зн. «нябеснай канцыляры», бо нават у гэтыя дні, калі дамы пакідалі дзесяткі тысяч людзей, якія трывожна пазіралі на хмарнае неба, не здолелі (не змаглі? не захацелі?) перадаць прагноз надвор'я канкрэтна па Мінску. Дыктарка наогул прачытала яго такім голасам, што было зразумела: я, канешне, агучыла тое, што мне далі, а ці верыць гэтаму — думайце самі.

### Моладзь

Несумненна, што гэта было найперш свята маладых. Ветэранаў, якіх і так ужо засталося няшмат, можна было пабачыць на вуліцах у асноўным толькі 3 ліпеня. Не шмат было і проста пажылых людзей — напярэдадні святаў яны традыцыйна з'ехалі на дачы.

Моладзь жа перапаўняла энергія. Асабліва ў першы дзень святкавання, калі сіл яшчэ было дастаткова. Метро пасля салюта нагадвала футбольнае поле: кожны прыпынак юнакі і дзяўчаты сустракалі дружным «Орэ, орэ, орэ, Беларусь!»

### Міліцыя і даішнікі

Бадай, толькі ў гэтыя дні праваахоўныя органы выконваюць

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

Постоянно реализуем:
цемент, шифер, трубы асбестоцементные, рубероид, битум, стекло, мел, арматуру.
(017) 220-51-14, 220-36-76.



ПРЕДПРИЯТИЕ
МИНСКОЕ ОТДЕЛЕНИЕ
БЕЛОРУССКОЙ
ТОРГОВО-ПРОМЫШЛЕННОЙ ПАЛАТЫ
*ИНФОРМИРУЕТ, ЧТО*
ВНОВЬ СОЗДАННОЕ
**БЮРО ПАТЕНТНО-ЛИЦЕНЗИОННОЙ РАБОТЫ**
ОКАЗЫВАЕТ УСЛУГИ
ПО ВОПРОСАМ ОХРАНЫ ОБЪЕКТОВ
ПРОМЫШЛЕННОЙ СОБСТВЕННОСТИ,
ВКЛЮЧАЯ УСЛУГИ
ПО СОСТАВЛЕНИЮ ЗАЯВОЧНЫХ ДОКУМЕНТОВ ДЛЯ
**РЕГИСТРАЦИИ ТОВАРНЫХ ЗНАКОВ,
ИЗОБРЕТЕНИЙ,
ПРОМЫШЛЕННЫХ ОБРАЗЦОВ
И ПОЛЕЗНЫХ МОДЕЛЕЙ**
А ТАКЖЕ ПО ОФОРМЛЕНИЮ
ЛИЦЕНЗИОННЫХ ДОГОВОРОВ ПО УСТУПКЕ ПРАВ
НА ОБЪЕКТЫ ПРОМЫШЛЕННОЙ СОБСТВЕННОСТИ:

**Наш адрес:
220113, г. Минск, ул. Я. Коласа, 65, каб. 26
Тел. для справок: 266-04-72, 266-04-73**

*Копировальный аппарат*
**SHARP Z 810**
ВСЕГО за 810 у. е.



**«ТЦ СНАМИ»**
г. Минск, ул. Фабричная, 22.
Тел. (017) 227-22-55, 230-67-54,
230-57-61, 214-89-64. Факс (017) 210-52-25.



◆ У рачным порце «Мікашэвічы».

# ...НУЮ СФЕРУ ...ТЭТАК ЖА, ...ВОРЧУЮ»

тэру ў поўную ўласнасць, то і будаваць яе павінен за свой кошт.

Іншая справа, што пры такіх заработках, што маюць пераважная большасць нашага насельніцтва, пабудаваць кватэру — справа больш чым праблематычная. Вось і бяром больш як палову выдаткаў па будаўніцтву жылля на сябе. Для прыкладу, летась мы ўвялі ў эксплуатацыю 80-кватэрны жылы дом. З рэспубліканскага бюджэту на гэта пайшло толькі 3,3 працэнта ад усяго кошту будаўніцтва. Прыкладна 51,1 працэнта сродкаў на яго ўзвядзенне выдаткаваў «Граніт». Самі ж жыхары заплацілі ўсяго 45,6 працэнта. Ды і то пры дапамозе льготных крэдытаў банка.

Прыкладна па такому ж прынцыпу вядзём будаўніцтва жылля і сёлета.

Нямала сродкаў выдаткоўваем і на аздараўленне людзей. У маляўнічым сасновым лесе размешчаны наш санаторый-прафілакторый «Світанак», які разлічаны недзе на 80 адпачываючых. У летні час тут у асноўным праходзяць аздараўленне дзеці работнікаў прадпрыемства.

Хоць тутэйшыя мясціны і далёка ад чарнобыльскай зоны, але тая навала не мінула і наш край. Ва ўсякім разе, месцамі радыяцыйны фон даходзіць да 5 кюры. Таму пра аздараўленне дзяцей клапоцімся ў першую чаргу.

Апрача таго, што яны знаходзяцца ў «Світанку», многія з тых, хто мае патрэбу ў аздараўленні і лячэнні, адпачываюць у іншых рэспубліканскіх здраўніцах і за мяжой.

Што датычыцца саміх працаўнікоў прадпрыемства, то летась у санаторыі-прафілакторыі «Світанак» адпачывала 542 чалавекі. Калі ўлічыць, што кошт пуцёўкі каля 8 мільёнаў рублёў, а работнік аплачвае ўсяго 10 працэнтаў, то адпачынак становіцца не толькі карысным, але і вельмі танным. Да таго ж у іншых здраўніцах летась за кошт прадпрыемства паправілі здароўе 135 працаўнікоў прадпрыемства, 77 — па лініі Чарнобыльскага фонду, а 90 — за прафсаюзныя сродкі.

Растуць выдаткі і на развіццё культуры, спорту. Пры мясцовым Палацы культуры дзейнічаюць некалькі гурткоў мастацкай самадзейнасці, дзе ахвотна займаюцца самі работнікі прадпрыемства, іх дзеці. Ды і наогул, дзверы Палаца культуры заўсёды адчыненыя для тых, хто хоча з карысцю правесці вольны час. Тут мы не дзелім людзей на сваіх і чужых.

Развіваюцца фізкультура і спорт. Заводская футбольная каманда «Граніт» упэўнена лідзіруе ў другой лізе рэспубліканскага першынства. А сёлета нашы футбалісты нацэліліся на выхад у першую лігу. На надаўняй спартакіядзе сярод будаўнікоў заваявалі большасць прызавых месцаў.

На абласных спаборніцтвах яны таксама былі лепшымі. І па футзалу наша каманда — не толькі прызнаны фаварыт на Брэстчыне, але і ўпэўнена выступае на першынстве рэспублікі.



◆ ...ік планавага аддзела Соф'я КЛІМЧУК і начальнік фінансавага ...анна СІНЬКО.



◆ Слесары-рамонтнікі Фёдар ЛУК'ЯНОВІЧ, Мікалай ВАЙЦАХОЎСКІ, Аляксей ГАЎРЫЛЫЧАЎ і Леанід РАМАШЭЎСКІ.

А які напал страсцей выклікаюць спаборніцтвы, што праходзяць па праграме круглагадовай спартакіяды! За пераходны кубак па фізкультуры і спорту спаборнічаюць каманды цэхаў і аддзелаў. Напружаныя паядынкі праходзяць па футболу, баскетболу, валейболу, гарадках, шахматах і шашках. А яшчэ працуюць секцыі лёгкай атлетыкі, велатурызму, акрабатыкі. На стадыён і ў спартзалу прыходзяць цэлымі сем'ямі: адны — каб паспрачацца за перамогу, а родзічы і блізкія — пахварэць за сваіх.

А ўсё гэта разам зблізае, згуртоўвае людзей, дае сілу, зарад бадзёрасці. Ды і атрымліваць прызы за перамогу ў спартыўных паядынках на вачах у знаёмых, родзічаў асабліва прыемна. І хоць і на правядзенне спаборніцтваў, набыццё прызоў патрэбны сродкі, іх мы не шкадуем, бо ўпэўненыя, што гэтая графа выдаткаў цалкам акупіцца новымі вытворчымі здабыткамі.



◆ Юныя веласіпедысты.



◆ Повары сталовай № 2 Ніна КАНДРАТОВІЧ, Марыя ІВАШКЕВІЧ, Таццяна ШЧАГРЫКОВІЧ і кантралёр-касір Вольга СЕРАВОКАЯ.



...фракцый 20—40 мм.



◆ Машыніст экскаватара Аляксандр ЯКУБОВІЧ.


## Дзяржаўнае прадпрыемства «Граніт»

**Выробляе і рэалізоўвае шчэбень гранітны (марка М-1400, ДАСТ-8667-93, ТУ ад 04.08.94 г.)**

| Найменне | | Цана за 1 м³ у беларускіх рублях (BRB) | у расійскіх рублях (RUB) | у доларах ЗША (USD) |
|---|---|---|---|---|
| Фракцыя | 5—10 мм | 285.000 | 49 | 8,3 |
| | 5—20 мм | 253.000 | 43 | 7,4 |
| | 10—20 мм | 253.000 | 43 | 7,4 |
| | 20-40 мм | 215.000 | 37 | 6,3 |
| | 20—60 мм | 203.000 | 37 | 6,3 |
| Адсеў (адходы вытворчасці) | | 19.000 | 6 | 0,5 |

**Наш адрас:**

Рэспубліка Беларусь, 225680, Брэсцкая вобласць, Лунінецкі раён, г.п. Мікашэвічы.

**Нашы тэлефоны:**

Тэлетайп 229802 «Граніт».
Факс: (0-16-47) 20-138, 21-538.
Тэлефоны: 28-398, 28-237, 28-374.
Прыёмная 28-339.


Матэрыялы выпуску падрыхтавалі да друку карэспандэнты «Звязды» Уладзімір ГОЙТАН і Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).

# КІРМАШ



**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 26 (144)**


**НПП "ФЕЛИЗ"**
**ПРОВЕРЕНО ВРЕМЕНЕМ**
(генеральная лицензия №13 от 12.07.94г. до 12.07.99 г. Первомайского РИК)
официальный дилер АО УАЗ
**АВТОМОБИЛИ**
**УАЗ ГАЗ**
100% комплектация и доукомплектация
**ВАЗ ПАЗ**
*Гарантийное обслуживание.*
Т. (017) 239-30-27 т./ф. 232-53-23
*Услуги посредников оплачиваются*

*Предлагаем*
**ХОЛОДИЛЬНОЕ ОБОРУДОВАНИЕ**
**И ЗАПЧАСТИ:**
*холодильные камеры, агрегаты, з/части к ФАК и ИФ, ТВВ (Тарту) РТХО, ТАМ-113, РВТ-8/12/24, микродвигатели, кран сливной для молочной ванны РПО-2,5, реле давления и др.*
Тел./факс (017) 283-96-59.

*Куплю* **МОТАБЛОК МТЗ**
*Тэл. (017) 276-45-31.*

**ТРУЖЕНИКАМ СЕЛА!**
*ОРГАНИЗАЦИЯ РЕАЛИЗУЕТ ЗАПАСНЫЕ ЧАСТИ К НЕМЕЦКИМ КОРМОУБОРОЧНЫМ КОМБАЙНАМ Е-281-282/ Е-301-302:*
- ▷ **РЕМНИ ХОДОВЫЕ; ПОДШИПНИКИ; МУФТЫ СЦЕПЛЕНИЯ; РЕМНИ СПЦ-1700, 2650, 2800.**
- ▷ **НОЖИ ЖАТКИ и БАРАБАНА; КАРДАННЫЕ ВАЛЫ; КРЕСТОВИНЫ.**
- ▷ **ВАРИАТОРЫ В СБОРЕ; РЕМ. КОМПЛЕКТЫ; ВАЛЫ.**
- ▷ **днище БАРАБАНА; ДИСКИ СЦЕПЛЕНИЯ; ТРОСЫ ГАЗА.**
- ▷ **БОЛТЫ М-12-1, 5-30; КОЛЬЦА ТГЛ 5876; ПРУЖИННЫЙ ПАЛЕЦ.**
- ▷ **З/Ч К ДВИГАТЕЛЮ 6ВД И ПР.**

А ТАКЖЕ ПРИНИМАЕМ ЗАЯВКИ НА ПОСТАВКУ З/Ч К КОМБАЙНАМ Б-516, 517 И ДОН-1200-1500.
**КОНТАКТНЫЙ ТЕЛ./ФАКС: (017) 285-26-34, 244-58-61**

**ЗЕНИТ - ZENIT**
**ПРОИЗВОДИТ И РЕАЛИЗУЕТ**
- **КАРБЮРАТОР, МАГНЕТО, ТОПЛИВНЫЙ НАСОС** к пусковым двигателям МТЗ-80, 82, 100, Т-150
- **КАРБЮРАТОР ДЛЯ МОТОЦИКЛА**
- **ВЕСЫ ТОРГОВЫЕ**
- **ВЕСЫ ПОЧТОВЫЕ**
- **ЛЕБЕДКА РУЧНАЯ**
- **УСТАНОВКА ВАКУУМНОЙ УПАКОВКИ**
- **ФОТОАППАРАТЫ:** зеркальные, шкальные
- **ПРИЦЕЛЫ ОПТИЧЕСКИЕ** дневные, ночные, крепления к ним
- **ОХОТНИЧЬИ ПРИНАДЛЕЖНОСТИ**
- **БИНОКЛИ, ЗРИТЕЛЬНЫЕ ТРУБЫ**
- **МЕДИЦИНСКАЯ ТЕХНИКА** весы ВМ-10, ВМ-20 офтальмоскопы микроскопы.

*Готовы выполнить заказы по механической обработке гальваническим покрытием, цветному и пластмассовому литью.*
***Вилейский завод «Зенит»***
***222410, Минская область, г. Вилейка, ул. Чапаева, 26.***
***Тел./факс (01771) 5-51-74, 5-86-54, 5-74-31, 5-87-70, 5-36-92.***

## Асабістае жыццё

**Аб. 749.** Мікалай, 24/178, Скарпіён, з Міёрскага раёна, пазнаёміцца з дзяўчынай для стварэння сям'і. Адкажу ўсім.

**Аб. 750.** Сімпатычная жанчына 33 гадоў пазнаёміцца з інтэлігентным мужчынам да 45 гадоў.

**Аб. 751.** Адзінокі чалавек, 20/175, пазнаёміцца з добрай, сціплай, прывабнай дзяўчынай без шкодных звычак.

**Аб. 752.** Не губляю надзеі пазнаёміцца з дзяўчынай да 35 гадоў. Аб сабе: Сяргей, 28 гадоў, рост 186, знаходжуся ў месцах пазбаўлення волі, г. Глыбокае, УЖ-15.

**Аб. 753.** Пазнаёмлюся з добрым хлопцам для перапіскі. Пажадана фота, якое вярну. Аб сабе: Таццяна, 18/165/52, Магілёўская вобл.

**Аб. 754.** Пазнаёмлюся з добрым хлопцам. Аб сабе: Святлана, 16/164/63, Горацкі раён.

**Аб. 755.** Два пагранічнікі: Андрэй — 19/180, Казярог і Віталь — 19/176, Вадалей, пазнаёмяцца з вясёлымі дзяўчатамі.

**Белорусская государственная политехническая академия приглашает на учебу**
***будущих инженеров-педагогов, преподавателей технологии и информатики***
(специальности П 03.01, П 03.02).
Зачисление по результатам собеседования.
Срок обучения полный и сокращенный».
**Приемная комиссия:**
**(017) 232-38-42; 246-17-23.**

## ПРАДАЕЦЦА

- мотаблок з навясным абсталяваннем і прычэпам — 1900 у. а. Тэл. (017) 231-30-05 з 18 да 21.00.
- карані жэньшэню, насенне і саджанцы — танна. Тэл. у Слонімскім раёне 7-32-06. Жукоўскі.
- два дамы (адзін — у райцэнтры Гарадок, другі — у цэнтры калгаса, 20 км ад горада), або мяняю на кватэру ў Віцебску ці іншых абласных гарадах Беларусі. Тэл. у Віцебску 33-65-91, у Гарадку — 2-22-15.
- дом, сад, участак 50 сотак, калодзеж, склеп, побач рака. Тэл. (8-217) 4-01-95.
- зруб 9х11 м у г. Іўе. Тэл. (8-017) 251-06-48.
- дом у Клецкім раёне, г/пабудовы, участак 20 сотак, сад. Тэл. (8-293) 4-54-49.
- «ВАЗ-21099» 1993 г. в. Тэл. у Глыбокім 2-10-66, увечары.
- л/а «Лада 1300» 1986 г. в. Тэл. у Вілейцы (8-271) 5-69-98.
- зруб на «чысты» вугал, памер 9х7 і трысцен 7х6 м. Тэл. у Мінску 255-08-10.
- матацыкл «ІЖ Юпітэр-3» з каляскай — 300 у. а. Тэл. у Нясвіжы (8-270) 5-51-84.
- дом з г/пабудовамі ў в. Пячонкі Мядзельскага раёна. Тэл. у Паставах 2-66-77 з 17.00.
- дом у г. Хойнікі, гараж, г/пабудовы, сад, ці мяняю на кватэру. Тэл. (8-01592) 3-63-92.
- л/а «Опель-Аскона» 1986 г. в., 1,6, дызель, вішнёвы, выдатны стан. Тэл. у Смаргоні (8-01592) 3-27-38.
- дом у Нясвіжы — 3000 у. а. Тэл. (8-270) 5-38-39.
- тэрмінова л/а «Таўрыя» 1989 г. в. (бітая), можна на з/ч — 235 у. а. Тэл. у Навагрудку 7-27-23, 2-37-32, Вярбіцкі.
- тэрмінова, танна дом у в. Лотва Мядзельскага раёна, каля возера. Тэл. (8-244) 2-17-03 з 9 да 17.00, Пінчук.
- дом, хлеў, лазня, склеп, сад, вада ў двары ў в. Знаменка Лагойскага раёна. Тэл. у Крупках 5-40-91.
- дом з усімі пабудовамі ў Смаргоні. Тэл. (8-01592) 2-19-60.
- дом з г/пабудовамі, садам, участкам 50 сотак на станцыі Лудчыцы. Тэл. у Быхаве 3-65-19, у Мінску — 43-32-93.
- матацыкл «ІЖ Ю-5 К» 1986 г. в., запасны матор, каляска закрытая — 250 у. а. (Карэлічы). Тэл. (8-296) 2-10-88.
- кватэра 2-пакаёвая з выгодамі ў Карэлічах Гродзенскай вобл. Тэл. 2-29-80.
- трактар «МТЗ-80» у Мсціслаўскім раёне. Тэл. (8-240) 6-45-17.
- м/а «РАФ» 1988 г. в., танна, г. Віцебск. Тэл. (8-0212) 33-85-48.
- «ВАЗ-2106» 1988 г. в., капрамонт 1997 г. — 2000 у. а. Тэл. (8-02339) 2-40-67.
- матацыкл «ЧЗТ-350/634» у выдатным стане, тэрмінова. Тэл. у Смаргоні 2-25-39, пасля 20.00
- «ЗАЗ-966» 1972 г. в. і з/ч — 100 у. а. Тэл. (8-01562)9-13-87.
- аўтацыстэрна 8 тон, рухавік «ЯМЗ-236», КПП, цана дагаворная. Тэл. у Мядзелі 5-63-82.
- «ВАЗ-2103» 1974 г. в. Тэл. у Пастаўскім раёне 3-63-35.
- «ВАЗ-2121» 1992 г. в., блакітны, у добрым стане. Тэл. у Смаргоні 2-25-39, пасля 20.00
- «ВАЗ-2103» 1976 г. в. у добрым стане. Тэл. у Свіслачы (8-01513) 2-37-44.
- дом з усімі выгодамі, тэлефон, гараж, участак 30 сотак у Карэліцкім раёне. Тэл. 94-82-37 (Мінскі раён).

## РОЗНАЕ

- здаю капітальны гараж у раёне Масюкоўшчыны (можна пад склад). Тэл. (017) 231-30-05, з 18 да 21.00
- ксеракопія, 1100 руб. ф. А4; куплю паперу для ксеракса, танна. Тэл. 253-92-26.
- куплю жоўцевыя камяні кароў. Тэл. (8-01592) 3-26-78.
- куплю «МТЗ-82» або «Т-25» б/к. Тэл. (8-017) 251-06-48.
- мяняю прэс-падборшчык б/к на плуг ці сенакасілку. Тэл. (8-01592) 3-63-92.
- куплю старыя фотаапараты, аб'ектывы, значкі і інш. старыя рэчы. Тэл. 253-24-41.
- куплю мотаблок без матора ці з сапсаваным рухавіком. Тэл. у Быхаве 3-65-19, у Мінску — 243-32-93.
- куплю аўтамабіль «Тарпан», нядорага. Тэл. (8-0212) 33-85-48.
- мяняю ці прадам 3-пакаёвую кватэру ў в. Мелькановічы Слонімскага раёна Гродзенскай вобл. Тэл. 9-43-18 — хатні, 9-42-23 — раб.
- кватэру 2-пакаёвую панельнага дома ў г. Салігорску на 2-пакаёвую ў г. Жодзіне. Тэл. у Салігорску 2-55-31; 2-36-86.
- куплю бульбакапалку да мотаблока. Тэл. у Навагрудку (8-297) 2-29-61.
- аказваем транспартныя паслугі па перавозцы грузаў а/м «МАЗ-5434», ізатэрма «Алка». Тэл. у Мядзелі 5-63-82.
- мяняю цагляны дом у г. Докшыцы на кватэру ў Наваполацку, Полацку або прадам. Тэл. у Докшыцах 2-17-72.
- мяняю 1-пакаёвую прыватызаваную кватэру ў Оршы з тэлефонам на жылплошчу ў Мінску. Тэл. у Оршы 4-16-07.

## «Незавяршонцы» ў новым тысячагоддзі няма месца

**Праграма скарачэння звышнарматыўнага незавершанага будаўніцтва на 1998—2000 гг. адобрана гэтымі днямі пастановай Савета Міністраў рэспублікі. Згодна з дакументам, аб'екты «незавяршонкі» будуць ліквідаваны да наступлення новага тысячагоддзя.**

Як адзначаецца ў праграме, сёння ў краіне звыш 14 тысяч аб'ектаў незавершанага будаўніцтва. Калі «адкінуць» жыллёвыя аб'екты, то спіс незавершаных будоўляў складаецца з 10 тысяч 267 пунктаў. Амаль 5 тысяч аб'ектаў з іх маюць звышнарматыўныя тэрміны будаўніцтва. Для іх у першую чаргу вызначаны лёс.

Згодна з прграмай, да 2000 года будзе завершана будаўніцтва 3 тысяч 410 аб'ектаў, 766 закансерваваны, 277 выстаўлены на продаж. Да разборкі канструкцый запланаваны 363 аб'екты.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## *КРАТКАЯ ИНФОРМАЦИЯ*
## о проведении дополнительной открытой подписки на акции БЕЛАГРОПРОМБАНКА девятого выпуска

**Белорусский акционерный коммерческий агропромышленный банк (Белагропромбанк) объявляют подписку на простые именные акции банка девятого выпуска.**

**Банк расположен по адресу: 220074, г. Минск, ул. Ольшевского, 24. Тел.: (8-0172) 2-28-52-06, 2-28-52-09, факс 228-53-03.**

**В соответствии с Уставом банк осуществляет** комплексное обслуживание предприятий, объединений и организаций агропромышленного комплекса республики, сельскохозяйственных арендаторов, крестьянских хозяйств, их объединений, союзов и ассоциаций, предприятий, объединений, учреждений других отраслей народного хозяйства независимо от форм собственности, совместных предприятий, созданных на территории Республики Беларусь с участием иностранных организаций и фирм, профсоюзных и других общественных организаций, а также граждан в соответствии с действующим законодательством.

**Банк зарегистрирован** в Национальном банке Республики Беларусь 3 сентября 1991 года, регистрационный № 20. Собранные по подписке средства будут направлены на обеспечение достижения уставных целей деятельности банка, к числу которых относятся:
— повышение эффективности общественного производства;
— укрепление финансов народного хозяйства;
— реализация продовольственной, социальной и других государственных программ;
— совершенствование внешнеэкономических связей Республики Беларусь.

**Прибыль банка за 1997 год составила 82.850 млн. руб., за 5 месяцев 1998 года — 22.061 млн. руб.**

Предыдущие выпуски акций (с первого по восьмой) на сумму 87.522 млн. руб. номинальной стоимостью 2000 рублей в количестве 43.761.000, в том числе 43.481.700 простых именных и 279.300 привилегированных, зарегистрированы в Комитете по ценным бумагам при Министерстве финансов Республики Беларусь.

Дополнительный (девятый) выпуск акций производится с целью увеличения уставного капитала банка и доведения его до размера 137.522 млн. рублей. Дополнительно выпускается 25 млн. простых именных акций на общую сумму 50.000 млн. рублей.

**Номинальная стоимость одной акции составляет 2000 (две тысячи) рублей.**

Одна акция дает ее владельцу право одного решающего голоса по любому вопросу, рассматриваемому на общем собрании акционеров, а также право на получение дивидендов в соответствии с суммой вложенных средств и соответствующей части имущества банка в случае его ликвидации.

Подписка на акции проводится во всех учреждениях Белагропромбанка ежедневно, кроме выходных и праздничных дней, с 9.00 до 13.00 часов в течение 4 месяцев со дня опубликования краткой информации в средствах массовой информации.

**Ниже приводятся адреса областных управлений Белагропромбанка и телефоны, по которым можно получить справку о подписке.**
***- г. Брест, ул. Воровского, 11, тел. (8-0162) 20-00-90;***
***- г. Витебск, ул. Ленина, 17. тел. (8-0212) 37-04-86;***
***- г. Гомель, ул. Интернациональная, 30, тел. (8-0232) 72-02-94;***
***- г. Гродно, ул. Сов. пограничников, 110, (8-01522) 2-11-32;***
***- г. Минск, пр-т Машерова, 91, 2-59-11-05;***
***- г. Минск, ул. Ольшевского, 24, тел. 2-28-59-08;***
***- г. Могилев, пр-т Мира, 55, (8-0222) 22-85-71;***

Подписка на акции производится путем заключения между подписчиком и банком двустороннего договора. В случаях, предусмотренных законодательством, при заключении договора подписчик представляет банку декларацию об источниках инвестирования средств, вносимых в счет оплаты приобретаемых акций, другие необходимые документы для ведения Реестра акционеров. Непредставление указанных документов является основанием для отказа в заключении договора подписки.

Подписчиками на акции могут быть граждане Республики Беларусь, других государств, лица без гражданства, юридические лица, в том числе иностранные, в рамках прав и обязанностей, предусмотренных законодательством Республики Беларусь.

Оплата за акции осуществляется подписчиком в расчетных билетах Национального банка Республики Беларусь, иностранной валюте по наличному (только для физических лиц) или безналичному расчету.

Преимущественным правом на покупку акций пользуются акционеры банка. В течение 10 дней со дня опубликования Краткой информации о проведении подписки они получают право первоочередного приобретения акций.

Средства, поступающие на покупку акций, зачисляются на временные открываемые балансовые счета с последующим зачислением на накопительные счета в Национальном банке Республики Беларусь на период проведения подписной компании.

Если сумма подписки на акции превысит объявленную или, наоборот, окажется ниже, то общее собрание акционеров вправе утвердить фактически поступившую сумму в счет подписки.

При отказе от выпуска акций банк возвращает подписчикам внесенные ими в уплату акций средства в течение месяца после принятия решения.

Подписчик приобретает права, связанные с владением акциями, после их государственной регистрации. Эмитент гарантирует сохранность средств инвесторов, внесенных на приобретение акций, до момента государственной регистрации акций.

Размер дивидендов по акциям утверждается общим собранием акционеров по итогам деятельности банка за год.

**С более подробной информацией о подписке на акции Белагропромбанка (проспектом эмиссии) можно ознакомиться в местах проведения подписки на акции.**

ЗВЯЗДА 7 ліпеня 1998 г. 7

ДЭГУСТАЦЫІ

# Залаты бляск айчыннага спіртнога

*Чарговае прызнанне на прасторах былога Саюза атрымала нядаўна прадукцыя беларускіх вытворцаў спіртнога.*

**Напрыканцы чэрвеня ў горадзе на Няве прайшла 5-я Міжнародная спецыялізаваная выстава «Пецярбургскі кірмаш він і гарэлак», на якім свае лепшыя ўзоры алкагольных напояў выставілі звыш 50 вытворцаў лікёра-гарэлачнай прадукцыі краін экс-СССР.**

Сярод саіскальнікаў узнагарод былі і многія беларускія прадпрыемствы. Але ж асабліва вызначыліся Мінскі віна-гарэлачны завод «Крышталь» і завод шампанскіх він. На дваіх ім дасталося шаснаццаць медалёў, прычым ганаровыя трафеі былі прысуджаны нашым майстрам алкагольнай галіны ва ўсіх прадстаўленых намінацыях. Мінскі ВГЗ «Крышталь» разам са спіртагарэлачным заводам «Крышталь-ІІ», што ў Малінаўшчызне (ён уваходзіць у састаў вытворчага аб'яднання «Мінскхрухмалпрам») заваявалі 11 узнагарод. Сталічныя гарэлачнікі атрымалі чатыры залатыя (гарэлкі «Белая Русь», «Крышталь-люкс», «Усяслаў Чарадзей», бальзам «Беларускі»), два сярэбраныя (лікёр дэсертны «Аксаміт», настойка горкая «Белавежская») і тры бронзавыя медалі (напітак пладовы моцны «Вермут-Крышталь», джын «Ведрыч», каньяк «Глорыя»).

Яшчэ два медалі ў маладзечанцаў: залаты — за гарэлку «Айсберг-люкс» і бронзавы — за гарэлку «Аквадзіў».

На думку работнікаў «Крышталя», гэта феменальны вынік прызнання якасці айчыннага спіртнога за межамі Беларусі. Асабліва калі ўлічыць той факт, што ў саставе дэгустацыйнай камісіі ўваходзілі лепшыя спецыялісты алкагольнай галіны некалькіх рэспублік і што на суд журы былі прадстаўлены 272 узоры лікёра-гарэлачных вырабаў.

Не менш напружанай была барацьба за правы называцца лепшым напіткам у раздзеле вінаробнай прадукцыі. Мінскі завод шампанскіх він выстаўляў 5 узораў шыпучагістага напітку, а ўсяго іх было 151. Залаты медаль дастаўся новай распрацоўцы сталічных вінаробаў — шампанскаму «Масква златоглавая». Астатнія чатыры экспанаты МЗШВ — шампанскае «брут», сухое, паўсухое і паўсалодкае ўдастоіліся «серабра». Дарэчы, за апошнія чатыры гады ў Мінскага завода шампанскіх він ужо 32 медалі на розных міжнародных конкурсах.

Аднак, аказваецца, працаўнікам яго не да трыумфу. Мінскі завод шампанскіх він зараз на мяжы спынення вытворчасці, што недапушчальна па тэхналогіі прыгатавання шампанскіх він.

Справа ў тым, што на МЗШВ «вісіць» непагашаны валютны крэдыт перад «Белзнешэканомбанкам» у памеры 1.900 тысяч амерыканскіх долараў. Пачынаючы з лютага завод штомесяц плаціць 1,5 мільярда рублёў з прыбытку за пратэрміноўку банкаўскай пазыкі. Нягледзячы на тое, што на разліковым рахунку завода ёсць беларускія рублі, купіць за іх СКВ па курсу Нацбанка немагчыма. Набыць валюту на біржаваму курсу таксама праблема, бо розніца паміж ім і курсам Нацыянальнага банка павінна пакрывацца за кошт прыбытку. Зарабіць валюту на экспарце малаверагодна, бо на гандаль алкагольнай прадукцыяй з Расіяй — асноўным спажыўцом беларускага шампанскага адмоўна ўплывае вялікі акцызны падатак — 1.2 ЭКЮ на 1 літр шампанскага, з-за чаго па цане ў Расіі наш тавар аказваецца ў розных «вагавых катэгорыях» з яго прыбалтыйскімі і малдаўскімі канкурэнтамі. Атрымліваецца, што такое прадпрыемства як Мінскі завод шампанскіх він — адзін з буйнейшых у рэспубліцы падаткаплацельшчыкаў (штодзень дзяржбюджэт ад дзейнасці МЗШВ папаўняецца амаль на 4 млрд. рублёў), дзяржаве не патрэбен. Цяпер перад заводам паўстала яшчэ адна праблема: як узяць новы валютны крэдыт на закупку вінаматэрыялаў для вытворчасці шампанскага. Відаць, патрэбы сталічных шампаністаў пакуль болей хвалююць пастаўшчыкоў з Венгрыі, Румыніі і Славакіі, якія пад слова гонару адпусцілі МЗШВ 300 тысяч дал вінаматэрыялаў на агульную суму 1.950 тысяч амерыканскіх долараў. Праўда, гэтай колькасці сыравіны хопіць для работы толькі да 1 кастрычніка. Што будзе далей — поўная няяснасць. Аднак «добрага дзядзькі» можа болей і не знайсціся. Хоць пакуль на МЗШВ вераць у лепшае, і завод развіваецца. Нядаўна, напрыклад, тут адкрыла свае дзверы новая сталовая, у бліжэйшай перспектыве ўвядзенне ў строй фізкультурна-аздараўленчага комплексу.

Хапае нявырашаных праблем і на «Крышталі». Усё з-за таго ж вялікага акцызнага падатку на гандаль з Расіяй: прабіцца на яе неабсяжны рынак практычна немагчыма, да таго ж у завода, як і ў іншых аналагічных прадпрыемстваў рэспублікі, няма артыкула расходаў на рэкламу. А без яе асвоіць не тое што заходні, але і рынак блізкага замежжа вельмі праблематычна. Добра, што хоць вырашылася пытанне з абаротнай тарай: цяпер каньячныя і вінтавыя бутэлькі прымаюцца, толькі без этыкетак. Гэты ход дазволіў абараніць лепшыя ўзоры айчыннай гарэлкі ад падробак, хоць і не на ўсе 100 працэнтаў.

З-за абмежаванняў экспарту ўзнікаюць праблемы з валютай, якая неабходна для закупкі каньячнага спірту, рэканструкцыі некаторых цэхаў, набыцця імпартнага абсталявання і на некаторыя іншыя патрэбы. З нядаўняга часу існуе забарона на работу з давальніцкай сыравінай. Зерне трэба толькі купляць, увесь спірт павінен заставацца ў распараджэнні завода. Праўда, часам яго немагчыма ўвесь пусціць на вытворчасць вінна-гарэлачных вырабаў па прычыне насычэння алкагольнай прадукцыяй унутранага рынку. А прадаваць спірт за межы рэспублікі не дазваляюць тыя ж вялікія акцызныя падаткі на гандаль з той жа Расіяй. Таму і скапілася зараз на «Крышталі» каля 700 тыс. дал чыстага спірту, над праблемай збыту якога тут ламаюць галаву.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**




Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

*Ёсць кнігі, будзе і хлеб.*

**Яппі — гэта тэрмін, абрэвіятура (yong upwardly mobile professional), літаральна перакладаецца — малады спецыяліст, які рухаецца па службовай лесвіцы. У заходняй сацыялогіі гэтым тэрмінам прынята пазначаць паспяховых маладых людзей, якія імкнуцца заняць у грамадстве дастойнае, па іх меркаванню, месца. У нас такіх называюць кар'ерыстамі. З доляй зняваґі.**

З'ЯВА

# «ЯППІ», альбо «я гэтага дастойны»

Прынята таксама лічыць, што «яппі» ёсць кандыдаты ў middle classe — сярэдні клас. Той самы, які з'яўляецца падмуркам стабільнасці і дэмакратыі. Пісаць артыкул на такую тэму ў нас будзе крыху камічна. Па-першае, сярэднім класам у Беларусі пакуль нават і не пахне. Па-другое, «паспяховыя маладыя людзі» з'яўляцца пачалі. Але не ў такой колькасці, як трэба б было. Працэс іх нараджэння тармозіцца.

Патэнцыяльна гэтыя людзі ўжо ёсць. Таму было б цікава разабрацца, чаму толькі патэнцыяльна, чаму яны — «рэч у сабе». І што гэта «рэч» тоіць, чаго ад яе чакаць, як яна суадносіцца з месцам і часам...

**1**

На Захадзе ўсё, як заўсёды, прасцей.

Малады чалавек вучыцца. У яго з'яўляецца жаданне купіць машыну. Ён купляе ў крэдыт, скажам, на чатыры гады. Яшчэ да заканчэння выплаты малады чалавек вырашае купіць новую машыну, больш прэстыжную. Бо ён ужо скончыў вучобу, ён працуе ў прыстойнай фірме — значыць, і машына павінна быць прыстойнай маркі і мадэлі. Зноў крэдыт, на тыя ж чатыры гады.

Але вось прыйшла пара заводзіць сям'ю. Сям'я — гэта дом, які набываецца таксама ў крэдыт. Маладому чалавеку плацяць нармальна, аднак не столькі, каб адразу купіць дом. Грошы за дом прыходзіцца выплачваць многія гады.

Тут, натуральна, нараджаюцца дзеці. Яны маюць уласцівасць расці, хадзіць у школу. Існуе небяспека: наркотыкі, дрэнныя кампаніі, хуліганы, розныя сексуальныя анамаліі. Адным словам, малады чалавек вымушаны ўдзельнічаць у грамадскім жыцці раёна, горада. Па простай прычыне: ён хоча, каб яго становішча і становішча яго сям'і, яго дзяцей было ўпэўненым, стабільным. Стабільнасць яму неабходная, бо крэдыт за дом, машыну і іншыя рэчы яшчэ не выплачаны. А гэта можна зрабіць, калі жыццё ідзе спакойна, «па плану».

Вось так сярэдні клас — воленс-ноленс — становіцца гарантам той самай стабільнасці. У іх. Думаю, гэтыя тэарэтычныя вышуканні маюць цікавасць для нас. Хоць, канешне, таксама пакуль тэарэтычную.

**2**

У мяне перад вачамі адна знаёмая сям'я. Муж, жонка, сын 14 гадоў, 8-гадовая дачка. Дачку мы пакуль не будзем улічваць па прычыне не зусім свядомага ўзросту. Мяне больш цікавіць сын, як цяпер кажуць, тынэйджэр.

Паколькі знаёмыя мы даўно і блізка, я меў магчымасць назіраць за эвалюцыяй поглядаў тынэйджэра. Гады, калі захапляюцца «бабл-гамам», «снікерсамі», Жан-Клодам Ван Дамам і інш., можна вывесці за рысу — яны прайшлі беззваротна. Зараз малады чалавек сур'ёзна пачаў задумвацца пра далейшае жыццё. Прычым у выключна практычным плане.

Звычайныя дзіцячыя гульні яго даўно не цікавяць. Да аднагодкаў, якія па нейкіх прычынах яшчэ не «ўехалі» ў патрабаванні сучаснасці, ён ставіцца з ледзь прыхаванай пагардай. Затое можа гадзінамі разважаць на зусім дарослыя тэмы, як, скажам, прафесія, заробкі, бытавы камфорт, замежныя паездкі, нарэшце, прафесійны поспех.

Адзін час хлопец толькі і гаварыў аб спецыяльнасці менеджэра. Калі на вочы траплялася маскоўская газета, дзе былі аб'явы тыпу «фірме патрабуецца... зарплата ад 1000 у.а.», ён яе з затуманенымі вачамі цытаваў бацькам. Потым недзе пачуў, што менеджэр — гэта толькі абслуговы персанал, што галоўная фігура ў фірме ўсё ж яе ўладальнік. Мары і разважанні перамясціліся ў гэтую плоскасць.

Далей наступіла «эра» камп'ютэра. Адпаведна, для бацькі — гарачыя дзянёчкі. Як толькі ён прыходзіў з работы, гучаў першы «прыстрэлачны» выстрал: «А Вадзіку купілі новую праграму...» Пад канец вечара ў кватэры ўжо чулася «канонада». З гора бацька пачаў лёгка адрозніваць джойсцік ад манітора. А скончылася ўсё гэта купляй патрыманага камп'ютэра з 486-м працэсарам, іншымі словамі, — устарэлым. І што, вы думаеце, сказала «чада»? «Ну добра, пакуль што і гэты няхай будзе... Вось калі б «Пентыум»...» — міласціва сказала яно. Бацька сядзеў як аплеваны.

Што ж, бацька выхоўваўся па савецкіх канонах. Спачатку — хоць бы дах над галавою. Потым: вось бы мяккі вугал купіць. Далей: дарагая, можа памянем тэлевізар? На якімсьці этапе бацька палічыў, што ўзровень бытавога камфорту дасягнуты, можна прылегчы на канапу. Але тут падрос сынок...

Па нашых мерках гэтую сям'ю можна паставіць у сярэдзіну. Калі ў доларах, то галава сям'і прыносіць дадому штомесяц у межах 200—220, жонка — каля 100. Затрымак з зарплатай амаль не бывае — абодва працуюць на дзяржаўных прадпрыемствах. У прынцыпе, кажа знаёмы, нам хапае. Ды і што там трэба? На харчаванне ёсць, калі-нікалі могуць купіць абнову. Праўда, падрэзлівае, апошнім часам стала цяжкавата. Канцы з канцамі зводзяцца, але з рыпам. Знаёмы лічыць дасягненнем, што яны жывуць без пазык, ад зарплаты да зарплаты ім хапае. Шчыра кажучы, большасць так жыла і ў савецкія часы. Так што асаблівых дасягненняў я не назіраю — узровень жыцця за апошнія дзесяць гадоў практычна ў іх не змяніўся. Што змянілася, дык гэта маштаб жаданняў. Хочацца, скардзіцца знаёмы, і тое купіць, і гэта, выбрацца, урэшце, за мяжу. Яны людзі цвярозыя, няма магчымасці — значыць пацерпім, як-небудзь абыдземся. Прывычны ход думак савецкага чалавека, былога толькі юрыдычна.

Але 14-гадовы сын цярпець і абыходзіцца не хоча. Бацька стаў заўважаць, што сын іх саромеецца. Саромеецца не вельмі моднага адзення маці, не надта вялікай зарплаты бацькі, таго, што іх кватэра, мякка кажучы, не блішчыць, што ў іх няма машыны, а тэлевізар — «Гарызонт-431», зусім не «Філіпс», нават не «Голстар». «Нагледзеўся гэтай рэкламы, — гаруе за куфлем піва бацька, — жыцця гэтага салодкага... А мне што, са штаноў выскокваць?!»

Так, тэлевізар, часопісы і газеты прапагандуюць адзін лад жыцця, а бачыць наш тынэйджэр зусім іншы. З другога боку, забараняць гэтую прапаганду ўжо позна, дый проста немагчыма. Яны паспелі ўбачыць тое, што ім трэба. Ідэал, да якога ёсць сэнс імкнуцца. Многія пабывалі за мяжой. Сам гэты хлопец месяц жыў у Чэхіі — не Германія, канешне, але ўсё ж...

Гэтыя, магу ўпэўнена сказаць, не прыйдуць да бацькі з пытаннем «что такое хорошо и что такое плохо». Яны і без бацькі дакладна ведаюць.

Яшчэ да гадоў дванаццаці сын майго знаёмага штосьці чытаў. Цяпер — толькі спецыялізаваныя часопісы па камп'ютэрах. Кім хоча стаць — тут яснасці пакуль няма. Я думаю, для яго гэта пытанне непрынцыпова. Якая розніца? Узор ёсць: такая работа і такая спецыяльнасць, якія б дазвалялі весці прыстойны ў яго ўяўленні спосаб жыцця. Гэта мы, дурныя, начэй не спалі, выбіраючы паміж «пед» і «мед», мы пісалі сачыненні: «хачу быць урачом, каб быць карысным людзям» і іншую летуценную абракадабру.

Вось вам амаль гатовы беларускі «яппі». Малады спецыяліст, які рухаецца па службовай лесвіцы...

**3**

Мне чамусьці няма ахвоты высвятляць: добра гэта ці дрэнна. Верагодна, трэба зыходзіць з таго, што гэта ўжо ёсць, гэта аб'ектыўна, іншымі словамі — ад нашай волі не залежыць.

Тут, безумоўна, ёсць шырокае поле для публіцыстычнага роздуму на тэму: «А вось у наш час...» Кіньце гэтую лухту. Ад душы рэкамендую. Што дрэннага ў тым, што маладыя людзі мараць пра дастойнае іх жыццё і ўсімі сіламі стараюцца яго дасягнуць? Заўважце: яны імкнуцца дабіцца дабрабыту не з дапамогай пісталета, а прафесіі, упартай работы. Большасць якраз разлічвае на дастойнае жыццё праз інтэнсіўную працу — гэта лічыцца неабходнай умовай. Так, пры гэтым яны не захапляюцца Чэхавым і нават Астаф'евым, дык ва ўсякім працэсе ёсць выдаткі. Нельга штосьці здабыць, не згубіўшы пры гэтым. Трэба памятаць: мы былі жабракамі ва ўсіх сэнсах, так што нашы дзеці, калі пачнуць адвяргаць, то многія будуць адвяргаць усё, увесь наш лад жыцця, да апошняй дробязі. І будуць нас саромецца, што можна толькі вітаць. Бо калі чалавеку ўсё оўна, як ён жыве, нічога новага ад яго чакаць не прыходзіцца...

Лепш вось аб чым падумаць: аб магчымасцях. Аб магчымасцях рэалізаваць сябе ў гэтым грамадстве. Сын знаёмых не хоча пачынаць кар'еру з «камка». Чаму, пытае ён, я пасля вучобы (гэта вырашана, ён вучыцца будзе) павінен гандляваць шакаладкамі? Неабходна, развівае думку, каб было шмат фірмаў і кампаній, дзе б я змог сябе прапанаваць. Няхай, кажа, конкурс, я дакажу, што чагосьці варты.

Бацька спрабуе растлумачыць, які ў нас зараз лад жыцця (хоць і сам не вельмі разумее), што мы працягваем будаваць... А сын завяршае гэты пасаж даволі проста і жорстка: «У Маскву трэба ехаць». «Ну трэба, дык едзь. Я стары ўжо...» — разгублена-стомлена рэагуе бацька.

Ён разумее толькі адно: што нічога не зможа растлумачыць і даказаць. Дый што даказваць? Што белае ёсць белае, а не шэрае?

Не верце газетам. Яны пішуць, што паміж уладай і апазіцыяй мае месца процістаянне з нагоды рознага разумення тэрміну «дэмакратыя». На самай справе процістаянне ёсць паміж старэйшым пакаленнем, якое хоча, але не можа жыць лепш і па-новаму, і маладым, якое можа і хоча. І ведае — як.

Лепш ім не перашкаджаць. Проста няхай дакажуць.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## Усё залежыць ад кваліфікацыі і прадукцыйнасці працы

*У пачатковай школе, дзе я працую, усяго 4 настаўнікі. Сёлета ў нас чакаецца скарачэнне. Сапраўды, я прыйшла ў гэтую школу апошняй. Але ці магу я трапіць пад скарачэнне, калі я і яшчэ адна мая калега з'яўляемся менавіта настаўнікамі пачатковых класаў, а двое настаўнікаў школы — філолагамі па адукацыі?*

**Зінаіда Мікалаеўна Роміч,**
Мядзельскі р-н.

Як патлумачылі нам у прававым аддзеле Рэспубліканскага камітэта прафсаюзаў работнікаў адукацыі і навукі, у такой сітуацыі ў прынцыпе не мае вялікага значэння, калі чалавек прыйшоў на гэта месца і хто ён па спецыяльнасці. Калі гаворка ідзе аб скарачэнні, тут больш істотным падаецца іншае — кваліфікацыя і прадукцыйнасць працы настаўніка. Таму пытанне, каго пакідаць працаваць у школе, а каго не, звычайна вырашаецца РАНА сумесна з прафсаюзам. Зрэшты, Зінаіда Мікалаеўна, калі вы ўсё ж будзеце нязгодныя з прынятым у выніку рашэннем, можна звярнуцца па кансультацыю непасрэдна ў Рэспубліканскі камітэт работнікаў адукацыі і навукі па адрасу: г. Мінск, прасп. Машэрава, 21 — там дапамогуць разабрацца ў канкрэтнай сітуацыі больш дэталёва.

**Сяргей ГРЫБ.**

**Мне здаецца, да гэтага апавядання Лідзіі Львоўны Арабей найлепш падышоў бы эпіграф з І. Буніна: «У прынцыпе, усе мы, што ў пэўны час жывём на зямлі разам і разам адчуваем усе зямныя радасці і беды, бачым адно і тое ж неба, любім, у рэшце рэшт, аднолькава і ўсе пагалоўна асуджаныя на вечнае зікненне, павінны былі б мець адзін да аднаго найвялікшую пяшчоту, аж да слёз замілавання пачуццё блізкасці...»**

**Вучоныя сцвярджаюць, што, паводле сваіх фізічных і біялагічных даных, кожнаму чалавеку наканавана пражыць не менш як 120 гадоў; аб гэтым сказана і ў Бібліі. Праўда, дадаюць вучоныя, «пры спрыяльных умовах». І тут ужо простая механіка. Усе мы ў гэтым свеце ўзаемазвязаныя. Таму, можа, ствараючы гэтыя самыя «спрыяльныя ўмовы» для іншых, мы аўтаматычна ствараем іх і для сябе?..**



**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**

НА КОНКУРС «ЗВЯЗДЫ» І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ

Лідзія АРАБЕЙ

# МАЦІ І ДАЧКА

Яны ЖЫЛІ ў камунальнай кватэры — пяць сем'яў на адну кухню, — і ў пад'ездзе бліскалі белымі кнопкамі пяць званкоў, каб кожная сям'я ведала, — да каго ідуць. Званок адрасаваўся Валі, і яна пайшла адчыняць. Паштарка падала ёй тэлеграму. Валя разгарнула, прачытала і адчула, як нядобра зрабілася сэрцу, абвялі ногі.

*«Памерла Зоя. Хаваць пятнаццатага».*

Некалькі хвілін Валя наогул не магла адумацца, потым, з натугаю, пачала разважаць: хаваць пятнаццатага... Сёння трынаццатае... Трэба ехаць, не — ляцець самалётам.

Яна схавала тэлеграму ў кішэню халата. Добра, што мама на кухні, не бачыла паштаркі...

Зоя была старэйшая Валіна сястра. Не зусім родная, ад першага матчынага шлюбу, але — сястра, адна маці нарадзіла. Было гэта даўно, у далёкім матчыным жыцці, калі самой Валі не існавала яшчэ на свеце. Пра тое жыццё Валя саромелася распытваць у мацеры, як там што дзеелася, куды знік яе першы муж. Нават пра свайго бацьку мала ведала — загінуў на вайне, а да вайны працаваў бухгалтарам на заводзе.

Калі прайшла першая хваля адчаю, страху, вырашыла — мацеры пра тэлеграму не гаварыць. У маці хворае сэрца, колькі разоў хапалі прыступы, выклікалі «хуткую дапамогу». Скажы такое — ці вытрывае?

А Валя вельмі шанавала сваю маці, калі тая хварэла — начамі праседжвала каля яе ложка, бегала па аптэках, каб дастаць якое імпартнае лякарства, не шкадавала грошай на самае дарагое і наогул старалася маці нічым не азадачваць, не дай Бог, нічым не пакрыўдзіць. І суседкі па кватэры любілі Валіну маці. Чаго не бывае на агульнай кухні, але тая ні з кім ніколі не сварылася, выдатная кулінарка, яна вучыла маладых гаспадынь гатаваць прысмакі, з усімі была ласкавая.

Аднак трэба было ехаць, трэба было ляцець на пахаванне.

На рабоце Валя растлумачыла, што сталася, папрасіла некалькі дзён за свой кошт, а мацеры сказала — тэрмінова паслалі ў камандзіроўку.

Сястра жыла ў Ташкенце. Завяло яе туды замужжа. Муж, хоць і беларус, нейкім чынам апынуўся далёка ад роднай зямлі. Прыехаў на радзіму пагасціць да радні, пазнаёміўся з Зояй і звёз яе туды. А праз нейкі час сям'я іх развалілася, і сястра засталася з дачушкаю, цяпер ужо, праўда, дарослаю. Кажуць, дочкі часта паўтараюць лёс мацеры. Вось і Зоя нейкім чынам паўтарыла матчын лёс, засталася з дзіцем без мужа. Але маці выйшла замуж другі раз, нарадзіла яшчэ і Валю, а Зоя так і засталася саламянаю ўдавою. Ды што ж так рана яе скасіла? Яшчэ ж маладая, толькі пяцьдзесят адсвяткавала. Праўда, і ў яе, як і ў мацеры, было хворае сэрца.

Валя глядзела ў круглае ваконца самалёта. Пад ім клубіліся густыя белыя аблокі, над імі сінела глыбокае чыстае неба і ярка свяціла сонца. Потым аблокі пачалі расступацца, адкрываючы зямлю. Яна ляжала ўнізе, быдта акуратна разлінаваная на квадраты — квадрат поля, квадрат лесу, блiснула стужка рачулкі, адбіла сонца азярцо, а далей пачалі выплываць жоўтыя шнуры гор.

Валя бачыла ўсё гэта і не бачыла, шкадавала сястру, сэрца і мазгі вярэдзіла турбота — што рабіць, каб маці не дазналася, як абараніць яе ад вялікага гора?

Часам падступала, хоць і не надта пэўнае, спадзяванне: а раптам нешта пераблыталі ў тэлеграме, а раптам гэта няпраўда і Зоя жывая?..

Але нічога не пераблыталі ў тэлеграме, і Валя ўбачыла сястру ў труне, нейкую супакоеную, памаладзелую, у святочнай сукенцы. Каля труны, прыкрыўшы бялявыя валасы чорнай празрыстай хусцінкаю, сядзела, плакала пляменніца, Зоіна дачка. Яшчэ некалькі кабет — і рускіх, і узбечак сядзелі каля труны, уздыхалі. Былы муж не аб'явіўся.

Адбыла Валя ўвесь рытуал пахавання — глядзела, як засыпалі сястру чужой жоўтай зямлёю, справіла памінкі. Пачала збірацца дадому.

Ёй прыйшло ў галаву: папрасіць якую кабету, каб пісала ім, нібыта ад Зоі, пісьмы. Каб яна паказвала мацеры тыя пісьмы і казала — вось, ад Зоі. На памінках прыгледзелася да адной — рускай. Немаладая, гадоў пад пяцьдзесят, з круглым добрым тварам, з сумнымі вачмі, русявымі валасамі з завіўкаю. Была Зоінаю суседкаю і быццам сябравалі. Пасля памінак растлумачыла кабеце сваю просьбу. Тая спачатку здзівілася, не ведала, што адказаць, але Валя пачала моцна прасіць, казала, што ў мацеры хворае сэрца. І тая згадзілася.

Вярнулася Валя дадому, не сказаўшы мацеры, вядома, дзе была. І пачалі жыць далей, быццам нічога не здарылася. А праз нейкі час прыйшло ад той кабеты пісьмо, нібыта ад Зоі. І вось дзіва — нават почырк быў крышку падобен да Зоінага.

Прачытала яго Валя мацеры ўголас, і тая паверыла, нічога не западозрыла.

Мінуў год, мінуў другі, Валя зрэдку атрымлівала пісьмы ад Зоінай суседкі, чытала мацеры. Адпісвала кабеце і напраміла Бог прасіла, каб тая прысылала пісьмы і далей, што маці верыць ім, іначай ёй давялося б сказаць праўду, і хто ведае, як бы яна тую праўду перажыла.

Але маці ўжо быдта пачала нешта падазраваць. Аднойчы спытала:

— А чаму Зоя да нас не прыязджае? Раней жа кожны год прыязджала...

Зоя сапраўды раней прыязджала кожны год...

— Ну, ведаеш, занятая, яна цяпер на дзвюх работах, ёй няма калі, — пралепятала Валя.

Але маці хмурылася, мусібыць, нешта казала ёй матчына сэрца.

Як Валя адыходзіла на работу, маці брала тыя, нібыта Зоіны, пісьмы, перачытвала іх. І чамусьці чужымі здаваліся ёй тыя словы, не чула, не бачыла за імі дачкі. Падазрэнне мацнела.

У іх вялікай камунальнай кватэры ўсе даўно ведалі гісторыю з пісьмамі, але ніхто не прагаварыўся мацеры, ніхто не адважыўся сказаць ёй праўду, нават самая сварлівая суседка.

Мінуў яшчэ год. Цяпер маці была пэўная, што з дачкою бяда, што яе няма ўжо на свеце, а Валя баіцца сказаць ёй гэта, шкадуе яе сэрца. Але пра сваё падазрэнне, нават пра пэўнасць сваю дачцэ не гаварыла. Не хацела развенчваць даччыную прыдумку, шкадавала дачку. Няхай думае, што я ёй веру...

А Валя пачала ўжо здагадвацца, што маці ўсё разумее, ды не хоча ёй адкрыцца. Яна бачыла гэта па матчынай журбе, па тым, як раўнадушна пачала прымаць пісьмы, што прыходзілі нібыта ад Зоі, з якім сумам слухала іх.

Маці і дачка хоць і ведалі ўжо цяжкую праўду, шанавалі адна адну, каб тою праўдаю адна адну не параніць.

---

36,6

## «АДДАЮЧЫСЯ» СОНЦУ, ПРЫМАЙЦЕ МЕРЫ БЯСПЕКІ

***Жарты жартамі, а размова пойдзе сур'ёзная. Кансультацыю на тэму «загараць — не загараць, як загараць» дае спецыяліст кафедры фізіятэрапіі Інстытута ўдасканалення ўрачоў дацэнт Ларыса КАЗЛОЎСКАЯ.***

### ЧЫМ КАРЫСНЫ УЛЬТРАФІЯЛЕТ?

Не трэба расказваць, што ўздзеянне на чалавека ультрафіялетавых промняў выклікае цэлы шэраг фізіялагічных рэакцый. Першы «адказ» арганізма — эрытэмаўтварэнне. Кажучы проста — пачырваненне. Само па сабе аказвае процізапаленчае і абязбольнае ўздзеянне, валодае бактэрыцыдным эфектам, з'яўляючыся своеасаблівым шчытом для мікраарганізмаў. Назіраецца зніжэнне рэакцыі арганізма на алергены, стымулюецца рост клетак — хутчэй зажываюць раны. Але каб дасягнуць лячэбнага эфекту, эрытэма за адзін сеанс у дарослага чалавека павінна ўтварацца на плошчы не болей 600 квадратных сантыметраў (напрыклад, перадплечча, галёнка, бядро). — Пры павелічэнні ж плошчы ўздзеяння ультрафіялету адбываецца прыгнечанне функцый цэнтральнай нервовай сістэмы. Менавіта па гэтай прычыне пачынаць апраменьванне патрэбна з невялікіх дозаў.

Мы загараем, каб скура набыла прыгожае адценне, якое ёй надае пігмент меланін. Гэты пігмент выконвае і ахоўную ролю: ён абараняе арганізм ад перагравання і апёкаў. У смуглявых людзей верагоднасць атрымання цеплавога ўдару і пухіроў ніжэйшая, чым у бледнаскурых. Меланін таксама не прапускае ў арганізм таксічныя прадукты, што ўтвараюцца ў скуры пад уздзеяннем ультрафіялетавых промняў. Ён жа ўзмацняе потавыдзяленне і тым самым спрыяе выхаду таксічных рэчываў.

Яшчэ адзін станоўчы бок ультрафіялету — актывізацыя абмену рэчываў у арганізме. У першую чаргу — мінеральны абмен і абмен вітамінаў. У прыватнасці, утвараецца вітамін Д, таму нават цяжарным жанчынам спецыялісты раяць загараць. Хворым на атэрасклероз таксама будзе не лішнім знаходжанне на сонцы ў разумных межах, бо зніжаецца ўзровень халестэрыну ў крыві.

### ЯКІЯ ПРАВІЛЫ ЗАГАРУ?

Ёсць такі накірунак у медыцыне — геліятэрапія, ці лячэнне сонцам. Сонечнае апраменьванне — моцны сродак прафілактыкі шэрагу захворванняў. Павялічваецца працаздольнасць чалавека, супраціўляльнасць арганізма да розных інфекцый і прастудных захворванняў.

Загараць трэба, калі сонечныя промні ашчаджальныя: ранкам і ўвечары. У перыяд з 12 да 17 гадзін знаходжанне пад адкрытым небам медыкі катэгарычна забараняюць. У гэты час вугал адбіцця промняў вельмі малы, а значыць яны цалкам паглынаюцца скурай. Таму днём у самую спякоту трэба хавацца ў цень. Загар працягвае ўтварацца, толькі ён ашчадны, бо цяпер уздзейнічаюць адбітыя промні. Час знаходжання на сонцы паступова павялічваюць з 10—15 хвілін.

Важна таксама ўлічваць і кліматычныя ўмовы. У ветранае надвор'е «згарэць» лягчэй, бо не спрацоўваюць рэцэптары скуры, якія паведамляюць, што горача. Вельмі небяспечна загараць агаленым. Нават калі ў лячэбнай установе праводзіцца апраменьванне, медыкі рэкамендуюць закрываць саскі грудзей. Ёсць выпадкі, калі пасля курса сонечных ваннаў адбывалася абвастрэнне анказахворванняў. Таму пры мастыпатыях, фібраміёме жанчынам лепш не загараць увогуле, у крайнім выпадку — толькі ў адбітым святле. Малыя дозы ультрафіялетавых промняў стымулююць у тым ліку і эндакрынныя органы, і палавыя. У вялікіх дозах — наадварот. А калі ёсць які дэфект, ён таксама ўзмацняецца. А людзям, якія пакутуюць ад павышанай фотаўспрымальнасці да ультрафіялету (назавём так: алергіі на сонца), увогуле не трэба загараць. У дадатак да з'яўлення высыпанняў на скуры ўзнікаюць праблемы з кішэчнікам, інтаксікацыя, павышаецца тэмпература.

Ужыванне шэрагу медыцынскіх прэпаратаў можа садзейнічаць павышэнню ці зніжэнню адчувальнасці скуры да ультрафіялетавых промняў. Павышаюць адчувальнаць скуры саліцылаты, ртутныя прэпараты, сульфаміламіды, ёд, рываноп, хінін, жоўцевыя пігменты, акрэхін, урабелін. Валодаюць адваротным дзеяннем прэпараты кальцыю, інсулін, марганцавакіслы калій, вазелін, мазь Вішнеўскага, а таксама серная і борная, усе пасты для скуры. Наяўнасць захворванняў нырак, хваробы Рэйно, экземы, фітадэрматозу, падагры, павышаных функцый шчытападобнай залозы таксама выклікаюць большую адчувальнасць скуры. Зніжэнне адбываецца пры рожыстых запаленнях, вялікіх ранах і пролежнях, дызентэрыі, захворваннях нервовай перыферычнай сістэмы і спіннога мозгу ніжэй месца паражэння, пры абмарожваннях.

І апошняе. Прыём сонечных і водных ваннаў павінен быць правільным. Не скачыце рэзка ў ваду пасля доўгага знаходжання на сонцы. Уявіце, што адбываецца. Пад уздзеяннем промняў сасуды расшыраюцца, кроў прылівае да паверхневага покрыва скуры, унутраныя органы забяспечваюцца крывёй аслаблена, бо адбываецца яе пераразмеркаванне. Тэмпература цела і вады непараўнальныя. Вядома, што раптоўнае ўздзеянне халоднай вады дзейнічае як рэзкі ўдар па перыферыйных сасудах, і яны сціскаюцца. Кроў імкнецца ў органы. А калі недзе слабае месца, калі нешта не спрацуе? Такія празмерныя сітуацыі для нетрэніраванага арганізма не вельмі прыемныя. Перш чым ісці ў ваду, трэба астыць пад навесам. Ну а каб не стаць ахвярай сонечнага ўдару, неабходна захоўваць такія простыя правілы геліятэрапіі: знаходзіцца на сонцы ў меру, не прымаць сонечных ваннаў нашча і засцерагаць галаву ад прамых промняў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

---

УСЁ ПРА ЎСЁ

## Сродак супраць мух

Узяць 1,5 шклянкі малака, 1 ст. лыжку тоўчанага перцу і 2 кавалачкі цукру, змяшаць разам. Потым моцна ўскіпяціць, пачакаць пакуль астыне, разліць на сподачак і паставіць дзе патрэбна. Мухі ахвотна нападуць на гэту прынаду, і, напіўшыся ўдосталь, паляцяць, але праз нейкі час пападаюць у сутаргах і акалеюць. Гэты сродак зусім бясшкодны для чалавека, нават калі атручаная муха трапляе ў ежу.

## ВІНШАВАННІ

*Дарагую сястрычку **Яўгенію Уладзіміраўну ЗАХАРЧУК** з в. Малюшычы Карэліцкага раёна віншуем з 70-годдзем. Жадаем радасці, спакою, здароўя моцнага людскога, жыць у дастатку, не хварэць, душой ніколі не старэць.*

**Таіса і ўсе родныя.**

***Марыі Станіславаўне ЖЫХ** з в. Данілавічы шчырыя віншаванні з нагоды 60-гадовага юбілею. Будзь заўсёды здаровай і шчаслівай, а нас няхай доўгія гады саграваюць твае любоў, ласка, дабрыня.*

***Твая сям'я.***

*Віншуем дарагога бацьку і дзядулю **Юрыя Аляксеевіча КРАСІКАВА** з г. Чэрвеня з 55-годдзем.*

*Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, шчасця і дабрабыту, удачы.*

***Дачка Святлана, зяць, унучка.***

***Валянціне Станіславаўне ЯНУШЭЎСКАЙ.** Дарагая матуля, віншуем цябе з 50-годдзем. Прымі нашу падзяку за веліч тваёй душы, нястомнасць рук, за ўсе бясконцыя клопаты аб нас.*

**Дочкі, муж,** г. Вілейка.

*Сардэчна віншуем з 40-годдзем дарагога сына і брата **Антона Антонавіча ЛІСА**. Жадаем моцнага здароўя, а астатняе ўсё будзе.*

**Родныя,** в. Знаменка Лагойскага раёна.

*Віншуем **Марыну Леанідаўну БАБРОВІЧ** з 30-годдзем.*

*«Желаем счастья, светлых дней,*
*Дороги жизни подлинней,*
*И больше радости на ней».*

**Родныя,** г. Смалявічы.

***Шчырыя віншаванні Юрыю ДУДКОЎСКАМУ** з нагоды заканчэння ваеннай акадэміі. Жадаю поспехаў у будучай працы, вечнага і светлага кахання, бадзёрага настрою.*

**Ірына,** г. Вілейка.

*Шчырыя віншаванні ў дзень нараджэння **Святлане Паўлаўне МІХАЛЕВІЧ.** Жадаю здароўя, шчасця і ўсіх зямных даброт.*

**Зоя Уладзіміраўна,** в. Красны Дар.

*Віншуем з цудоўным днём — днём нараджэння **Аляксандра Уладзіміравіча ГЛІНСКАГА.** Вучыся добра і ствapaй дабрабыт на Зямлі.*

**Дзядуля і бабуля Тузікавы,** в. Лешніца Пухавіцкага раёна.

ОРГАНИЗАЦИЯ
приглашает к сотрудничеству
фермерские хозяйства, колхозы и производств. предприятия по переработке зерна
в направлении совместной установки мельниц производительностью 500 кг/ч.
Тел. (017) 269-16-23 261-63-10
salve

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 85.556. Індэкс 63850.
Зак. № 4009.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12